

## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Вобласьць прыбрала збожжа на трэцяй частцы ўсіх палеткаў. Тэмпы, хаця начальства фанабэрыцца, не назавеш высокімі. Апошнім часам іх нельга сьпісаць на надвор'е. Уся справа ў малой колькасьці мэханічных адзінак, што задзейнічаныя на жніве, і ў напрузе з палівам. Ды наогул, ці мала чаго непрыемнага здараецца на вёсцы кожны дзень. Яна для людзей даўно перастала быць сваёй...

Скандальная сытуацыя складваецца вакол магілёўскіх камэрцыйных шапікаў, што месьцяцца побач менскага рынку. Паводле патрабаваньняў гарадзкой архітэктуры, шапікі трэба тэрмінова прыбраць. Аргумэнты вельмі простыя: дрэнны вонкавы выгляд, цяжка пад'ехаць пажарнікам, небясьпечная для аўтамабілістаў сытуацыя. Пры гэтым гандлярам прапануюць шукаць месцы "дзе-небудзь". Паводле апошніх зьвестак, падобны ж падыход улады зьбіраюцца прымяніць й да камэрцыйных шапікаў ля цэнтральнага ўнівэрмагу. Калі справа пойдзе такімі тэмпамі, то ў хуткім часе вуліцы нашага гораду стануць цалкам вольнымі ад камэрцыйнага гандлю. Ці добра і зручна гэта – мяркуйце самі. Хаця ўлады якраз і разьлічваюць на грамадзкае спачуваньне свайму рашэньню, бо меркаваньне пра тое, што прыватныя гандляры – ня больш, чым "вшивые блохи" (А.Лукашэнка), даволі трывала сядзіць у галовах многіх.

У чарговы раз Магілёўская праваслаўная япархія адзначыла Дзень сьвяціцеля Каніскага. Спачатку была літургія, а потым крыжовы ход ад Сьвята-Мікольскага манастыру да палацу Георгія Каніскага. Ну, а там адбылася ўрачыстая імша пры ўдзеле намесьніка старшыні аблвыканкаму Анатоля Глаза і старшыні гарвыканкаму Міхаіла Краснова. Узгадалі, канешне, пра тое, што Каніскі цягнуўся да Масквы, а пра тое, што ён ледзь не праклянуў тую ж Маскву пасьля захопу Магілёва войскам імпэратрыцы Кацярыны – забыліся.

Абласныя ўлады і ўрадовыя чыноўнікі патрабуюць ад шклоўскіх калгасьнікаў, каб у тых на палёх ураджайнасьць была не ніжэй за 30 цэнтнэраў з гектара. Нагадаю, што ў заходніх фэрмэраў нармальнай лічыцца ўраджайнасьць на трэць вышэйшая. Але ў нас і "шклоўскі" узровень не для ўсіх дасягальны. Патрэбнае гэтае дасягненьне дзеля прывабнасьці "дажынак", а значыць будзе забясьпечанае. Не адмяняць жа сьвята другі раз! Як будзе забясьпечанае – на тое ў калгаснай сыстэме майстры не перавяліся з савецкіх часоў.

Мэдыцынскае начальства абсьледавала Хоцімскі раён і прыйшло да высновы, што стан аховы здароўя тут нізкі. Начальства патлумачыла гэта неэфэктыўным расходаваньнем дзяржаўных сродкаў, іх распыленьнем. Надта шмат, напрыклад, у раёне працуе больніцаў, – лічыць мэдычнае начальства. Вось і трэба, маўляў, пераўтварыць многія больнічныя месцы ў так званыя дзённыя стацыянары, ад чаго здароўе хоцімцаў пойдзе ўверх... Чытаеш такое і ня ведаеш: жарт тое ці праўда.

Па меншай меры яшчэ два гады магілёўцам і гасьцям гораду няма чаго чакаць ад працаў па добраўпарадкаваньні Дубравенкі. Галоўны падрадчык – трэст "Магілёўводбуд" сродкаў на заплянаваныя працы не атрымаў і ня хутка атрымае. Нагадаю, што кожны чарговы "мэр" абласнога цэнтру заўсёды пачынаў сваю "выбарчую кампанію" з абяцаньняў выратаваць Дубравенку. Каб гэтак жа лёгка, як на словах, было тое на справе... А шкада: выдатная рэчка гіне на вачах, што заіндустрыялізаванаму Магілёву яшчэ аўкнецца.

На тыдні прайшоў агульны Дзень інфармаваньня насельніцтва. Гэта значыць, што 80 (!) чыноўнікаў аблвыканкаму – у рабочы, зразумела, час (бо хто стане слухаць іх у вольны) даводзілі насельніцтву ўсю праўду-матку пра клопаты ўлады, ейнае стараньне і, канешне, аб'ектыўныя цяжкасьці "пераходнага часу". Шкадую, што не ўдалося самому патрапіць на такое "інфармаваньне", можа й я пачаў бы разумець, што ж сапраўды нашая ўлада робіць для лепшага жыцьця людзей. А тое жывеш у цемры і недасьведчанасьці, бо арыентуесься на тое, што бачыш сам. Начальства ведае, што гэтага чалавеку недастаткова. Тут адзін крок да "няправільных і пасьпешлівых" высноваў, асабліва небясьпечных на парозе выбараў.

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн.*

СУЧАСНАЯ ВЁСКА

# Няма селяніна безь зямлі

*Прыкладна месяц таму, выступаючы на абласным тэлебачаньні, старшыня аблвыканкаму Міхаіл Дражын адмовіўся ад сваёй ранейшай гатовасьці рэфармаваць калгасную вёску. Увесь мінулы год ён неаднаразова, бываючы ў гаспадарках, абвяшчаў блізкі паварот да новай калгаснай стратэгіі, якая павінна даць ім неабходную волю ў распараджэньні вынікамі працы, сродкамі, у выбары вытворчых прыярытэтаў.*

*І вось вынік нядаўняга настрою: новага ня будзе, бо людзі не гатовыя і Лукашэнка раіць не сьпяшацца...*

*Тым часам далейшае прамаруджваньне з рэформамі на вёсцы пагражае ёй поўным эканамічным і сацыяльным выраджэньнем. Ужо сёньня ў калгасах працуюць гараджане, а не вяскоўцы. Гарадзкія арганізацыі нарыхтоўваюць сена (альбо адкупляюцца ад гэтага грашыма ці матэрыяльна-тэхнічнымі прыладамі), убіраюць збажыну, восеньню прымусова паедуць "на бульбу".*

*Калгасная вёска гіне – і эканамічна, і маральна. Аднак улада чапляецца за яе таму, што рынкавыя рэформы пазбавяць вёску падначаленасьці і рабскай залежнасьці, зробяць людзей уласьнікамі зямлі, дазволяць ім распараджацца вынікамі сваёй працы, а гэта значыць – зробяць іх вольнымі людзьмі. Што будзе рабіць з такім народам дыктатарскі рэжым?..*

*На шчасьце, далёка ня ўсе навукоўцы і практыкі (узгадаем хаця б нашых Старавойтава, Лявонава ці Юркова) палохаюцца новых поглядаў. У Горацкай сельгасакадэміі была праведзеная нават міжнародная канфэрэнцыя па тэме праблемаў і пэрспэктываў аграрнай вытворчасьці. "ТМ" палічыў патрэбным пазнаёміць чытачоў з скарочаным выступам на ёй кандыдата эканамічных навук, загадчыка сэктару сацыяльнага разьвіцьця сяла БелНДІАЭ Міхаіла Антоненкі.*



Я перакананы, што сапраўднае рынкавае пераўтварэньне нашай сельскагаспадарчай вытворчасьці магчымае толькі ў выпадку перадачы зямлі сялянам. І гэта – прынцыповае пытаньне. Бо нават пры акцыянаваньні калгасаў і саўгасаў зямля перадаецца не грамадзянам, а прадпрыемству як юрыдычнай асобе. А гэта сьведчыць пра кансэрвацыю правоў уласнасьці, што ўвялі бальшавікі пасьля кастрычніцкага перавароту 1917 года. Таму любое рэфармаваньне калгаснага ладу пры захаваньні савецкага сацыялістычнага права на зямлю дасьць тое ж неэфэктыўнае сацыялістычнае прадпрыемства, няхай і "запакаванае" у рынкавую форму.

На прыкладзе дзьвюх гаспадарак – калгасаў "Дорскі" і "Зара" у Валожынскім раёне – мы намагаемся рэалізаваць нядаўна распрацаваную канцэпцыю абагульненай мадэлі рынкавага аграрнага прадпрыемства. Яе падтрымалі 270 сялянаў, якія хочуць правядзеньня падобнай рэформы, бо ім падабаецца самая ідэя атрымаць зямлю й стаць на ёй гаспадарамі. І хоць гэты праект атрымаў "дабро" у сельсавеце, катэгарычна супраць выступіў зямельны аддзел райвыканкаму, бо ён, сёньняшні ўласьнік зямлі, ня хоча выпускаць яе з сваіх рук нават на 16 год – тэрмін дзеяньня прапануемай намі дамовы аб арэндаваньні.

Сваю адмову райвыканкамаўскі аддзел матывуе спасылкаю на артыкул 2 закону "Аб сялянскай (фэрмэрскай) гаспадарцы", паводле якога сялянская гаспадарка павінна быць заснаваная збольшага на аснове працы адной сям'і. Значыць, атрымліваецца, што калі гаспадарку складаюць дзьве сям'і, то такая дзейнасьць быццам бы незаконная. А мы сьцьвярджаем адваротнае. Тым больш, што наступныя рэглямэнтныя дакумэнты абавязковага выкананьня гэтай нормы ўжо не патрабуюць. Аднак чынавенству зручна ведаць толькі тыя законы, распараджэньні і дэкрэты, якія ім "на руку". У гэтай сытуацыі спрэчнае пытаньне паміж сялянамі і зямельным аддзелам райвыканкаму ў стане вырашыць аблвыканкам, які, аднак, не сьпяшаецца гэта зрабіць. Магчыма, што вяскоўцы будуць вымушаныя зьвярнуцца ў суд.

Толькі пасьля таго, як былыя калгасьнікі возьмуць у арэнду частку зямлі ці ўсю зямлю, якая раней належала калгасу ці саўгасу, і ўтвораць свае прадпрыемствы – яны арганізуюць вытворчасьць у любой з васьмі існуючых формаў камэрцыйных арганізацыяў, прадугледжаных Грамадзянскім кодэксам і адаптаваных да ўмоваў сяла. Усім астатнім калгасьнікам і саўгасьнікам, хто не рызыкне альбо ня здолее жыць па-новаму, у тым ліку й пэнсыянэрам, плянуецца выплаціць кампэнсацыю іхняй маёмаснай долі ва ўласнасьці былых калгасаў і саўгасаў.

На мой погляд, гэта – адзіны варыянт захаваньня буйной сельскагаспадарчай вытворчасьці ў сёньняшніх беларускіх умовах. Чаму гэты варыянт я лічу найбольш прывабным? Рэч у тым, што ў сельскай гаспадарцы зямля была, ёсьць і застанецца асноўным сродкам вытворчасьці. Вось чаму пры стварэньні рынкавага прадпрыемства сяляне павінны ў якасьці свайго ўнёску ў статутны фонд, сярод іншай маёмасьці, унесьці туды й свае арэндныя правы на зямлю. Калі ж мы арганізоўваем гаспадарку па старых прынцыпах, мы кансэрвуем старыя дачыненьні паміж сельскагаспадарчым прадпрыемствам і вышэйстаячымі арганізацыямі. Райвыканкам як уласьнік зямлі працягвае камандаваць тэхналягічным ланцугом і такім чынам захоўваць цяперашняе, шкоднае для вытворчасьці права апэратыўнага кіраваньня прадпрыемствам (усім вядома, да чаго прывяло гэтае кіраваньне, а дакладней, камандаваньне).



Я згодны з тым, што зямля павінна быць ва ўласнасьці дзяржавы, што дазволіць ёй (дзяржаве) адказна, ад імя ўсяго грамадзтва, распараджацца зямлёй: з выгодай перадаваць у арэнду, у пастаяннае ці пажыцьцёвае карыстаньне з правам перадачы спадчыньнікам. Але, як паказвае гістарычная практыка, зямля ні ў якім разе не павінна належыць дзяржаве праз такі спосаб, калі яна ўтварае ўласныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы й кіруе імі.

І апошняе, што, на мой погляд, неабходна зрабіць для рэальнага зьдзяйсьненьня аграрных пераўтварэньняў. Усе зацікаўленыя ў гэтым асобы абавязаныя стварыць сваю рэальную палітычную партыю, якая здолела б палітычнымі мэтадамі рухаць і абараняць сялянскую рэформу. У адваротным выпадку праблема яшчэ на доўгія гады застанецца без вырашэньня.

***Міхаіл АНТОНЕНКА,***
***кандыдат эканамічных навук***

*Фота IREX*

